*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 5(27). Травень

# Ад сабора ў бок цяперашняга помніка Леніну ішоў падземны ход


***Скрыжаванне цяперашніх вуліц Пушкіна, Янкі Купалы, Першамайскай. Здымак часоў Першай сусветнай вайны. На вуліцы каля каменнага плоту сабора агароджаны правал.***

20 гадоў таму аўтарам гэтых радкоў былі запісаныя ўспаміны жыхара Слоніма, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны 74-гадовага Рыгора Захаравіча Зайцава. Яны прысвечаныя падзямеллям у нашым горадзе.* Зайцаў у пасляваеннае дзесяцігоддзе неаднаразова сутыкаўся з імі ў розных месцах (Спаса-Праабражэнскі сабор, пл. Леніна і яе наваколле) ды мог параўнаць выяўленыя тунэлі, іх памеры, цэглу. Ён быў перакананы, што самы вялікі тунэль ішоў ад Спаса-Праабражэнскага сабора да Свята-Троіцкага сабора (былых касцёлаў). Падкрэслю, што Рыгор Зайцаў ведаў гэта не з чужых слоў, ён асабіста ў яго спускаўся. У гэтым нумары “СК” змешчаная расшыфроўка аўдыёзапісу яго ўспамінаў з мінімальнымі купюрамі.

Ёсць і скептыкі. У верасні 2011 года на слонімскім тэлебачанні ў адным з сюжэтаў у якасці эксперта выступіў былы кіраўнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі Слоніма Канстанцін Зубко.

*Працяг на ст. 3.*

# У Марачоўшчыне адкрылі помнік Тадэвушу Касцюшку

У Марачоўшчыне каля Косава 12 траўня ўрачыста адкрылі помнік аднаму з самых вядомых ураджэнцаў Слонімскага павета Тадэвушу Касцюшку (1746 — 1817). Ён стаіць побач з домам-музеем кіраўніка вызваленчага паўстання 1794 года, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША.

На ўрачыстасці прысутнічалі сотні людзей з усёй Беларусі. Сярод іх былі прадстаўнікі пасольстваў у нашай краіне, чыноўнікі, пісьменнікі, палітыкі, дзеячы навукі і культуры, землякі Касцюшкі.

*Працяг на ст. 2.*



# Пра слонімскую метэастанцыю

Летась у “СК” прачытаў, што ў Слоніме метэаназіранні праводзіліся з 1872 года. Арганізавала іх імператарскае рускае геаграфічнае таварыства.* Але не вядома, хто займаўся гэтай працай у нашым горадзе ў той час. А вось пра пачатак XX стагоддзя дадзеныя ёсць. Знайшоў іх у адной нядаўняй публікацыі.** У ёй згадваецца, што ў 1911 годзе ў Слоніме дзейнічала метэаралагічная станцыя (на жаль, невядома, якога яна была класу). Ёй займаўся “настаўнік-інспектар М. Ф. Касцюкевіч”. Пашукаў пра яго звесткі і даведаўся, што Мікалай Філіпавіч Касцюкевіч працаваў у Слонімскай 4-х класнай гарадской вучэльні.***

Чым займалася метэастанцыя? Калі яна была 2-га класу, то тройчы на дзень (у 7:00, 13:00, 21:00) рабіліся замеры, калі 3-га — толькі адзін раз (у 7 гадзін раніцы). Найхутчэй Касцюкевіч працаваў бясплатна, а неабходнае абсталяванне аплаціла навучальная ўстанова. Магчымасці даследаванняў залежалі ад наяўнасці абсталявання, а што меў у сваім распараджэнні слонімскі настаўнік, мы не ведаем. Метэастанцыя фіксавала тэмпературу паветра, яго вільготнасць, накірунак і сілу ветру, магутнасць сонечнага ззяння, хмарнасць, атмасферныя ападкі, узровень вады ў вадаёмах і г. д. Магчыма, запісы Мікалая Касцюкевіча захаваліся. Цікава было б іх пагартаць.

●***Максім Ігнатовіч***

**СЁ. Цікавыя факты пра Слонім // Слонімскі край, 2017, № 6(16). Чэрвень. С. 2.*

***Лиходедов В., Улитенок Г. “Это выше обычного геройского подвига…” // СБ. Беларусь сегодня, 2018, № 47, 10 сакавіка. С. 14.*

****Адресъ-календарь и справочная книжка Гродненской губерніи на 1912 годъ. — Гродна, 1911. С. 373.*

# У Марачоўшчыне адкрылі помнік Тадэвушу Касцюшку

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Перад прысутнымі выступіў кіраўнік Івацэвіцкага райвыканкама Аляксандр Грыцук. Пра Тадэвуша Касцюшку і сам помнік распавядалі пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Анатоль Бутэвіч, скульптар Гэнік Лойка, ініцыятар стварэння помніка Глеб Лабадзенка і іншыя асобы. Над натоўпам луналі бел-чырвона-белыя і чырвона-зялёныя сцягі.

Гэта першы помнік Касцюшку на тэрыторыі Беларусі.

●***Сяргей Чыгрын***

Фота аўтара





# Ад сабора ў бок цяперашняга помніка Леніну ішоў падземны ход

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Ён гаварыў, стоячы на імаверным падземным ходзе, у якім пабываў Зайцаў (відэа ёсць на YouTube): “Ходзяць усялякія легенды аб тым, што з сабора [Спаса-Праабражэнскага] калісьці былі нейкія падземныя хады. Але гэтага не было. Чаму я ў гэтым упэўнены? Таму што ад гасцініцы [“Шчара”]... да былога будынка міліцыі мы пракладалі цеплатрасу, пракапалі дзесьці 1,5-1,7 метра, нідзе мы там не натрапілі нават на нейкія намёкі на кладку. Так што гэта напэўна проста прыгожая легенда”.

У гэтым выпадку не легенда. У архіве МУС мусяць захоўвацца дакументы пра аперацыю 1951 года, пра якую згадвае Зайцаў. Каля Спаса-Праабражэнскага сабора выяўлялі і іншыя тунэлі. Падчас аднаўлення храма знайшлі “таямнічы падземны ход у накірунку сучаснай вуліцы Пушкіна”.** Летам 2015-га выявілі падземны ход з іншага боку, у раёне вуліцы Хлюпіна.*** На нашу думку, у колішняй сістэме гарадскіх падземных тунэляў касцёл канонікаў латэранскіх (на яго месцы адбудаваны Спаса-Праабражэнскі сабор) адыгрываў ключавую ролю.**** І вельмі шкада, што выяўленыя тунэлі не даследаваліся.

●***Сяргей Ёрш***

**Успаміны Рыгора Зайцава былі выкарыстаны ў наступнай публікацыі: Ёрш С. Слонімскае падзямелле // Газета Слонімская, 1998, № 10 (39), 6-12 сакавіка.*

***Афанасик В. Загадки слонимских святынь. — Слоним, 2017. С. 13.*

****Газета Слонімская, 2015, № 32, 5 жніўня. С. 7.*

*****Ёрш С. Да пытання існавання ў Слоніме падземных тунэляў // Слонімскі край, 2016, № 1. Люты. С. 4-5.*



***Першамайская вуліца ў Слоніме, 2015 г. Фота Аляксандра Ярша.***

Першыя падземныя хады ў Слоніме мы знайшлі ў 1951 годзе, калі я быў дырэктарам кінатэатру “17 верасня”, які знаходзіўся на вуліцы Пушкіна. У той час у горадзе распаўсюдзілася зладзейства, дзейнічалі банды піцерскіх і растоўскіх злодзеяў, якія рабавалі крамы. На рынку яны абрабавалі краму мануфактуры яўрэя Гральніка і падобную ж краму “абчысцілі” на Чырвонаармейскай вуліцы (цяпер у тым будынку жылы дом).

Міліцыя іх шукала, а ў мяне там было шмат сяброў. Аднойчы мне кажуць: “Захаравіч, нам прыйшоў загад пашукаць па падвалах, дзе яны хаваюць нарабаванае”. Прапанавалі паўдзельнічаць. Я пагадзіўся, кажу, што магу з кінатэатра рухавічок узяць, пераноску.

Шукаць пачалі з сабора [Спаса-Праабражэнскага, на скрыжаванні вуліц Янкі Купалы і Пушкіна], які яшчэ не быў цалкам развалены. Зводы, дах ужо былі разбураны, але сцены стаялі. Прыехалі мы туды. Праз акно залезлі ў сабор (астатнія ўваходы былі заваленыя). Міліцыянеры шукалі, дзе можа быць уваход у падзямелле. Нарэшце, знайшлі дзірку, закрытую зверху паловай разбітага помніка (гэта злодзеі зрабілі такую маскіроўку). Праз гэтую дзірку можна было спусціцца ўніз, як аказалася, у падзямелле.

Першым палез я, за мной — міліцыянеры Прэдка і Іван Цецераў (яны ўжо памерлі). З дапамогай рухавічка асвятлілі памяшканне, дзе апынуліся. Аказалася, што трапілі туды, куды трэба. Ад сабора ў бок цяперашняга помніка Леніну ішоў падземны ход, і ў ім ляжала шмат цюкоў мануфактуры, посуд, іншыя тавары. Колькі магчыма было, мы даставалі знойдзенае наверх, выгружалі з гэтых тунэляў...

Паветра там не было, таму мы і не спрабавалі далёка лезці. Памятаю, што вышыня ходу была каля трох метраў. Звод быў паўавалам зроблены. Метра два ход быў у шырыню, а можа і больш. Так што карэта магла праехаць... Усё было абліцована моцнай белай цэглай, якой будаваўся і сам сабор [касцёл]. Ведаю яшчэ, што за саборам у падзямеллі, з боку сучаснай крамы “Спадарожнік”, трунаў шмат стаяла, адна на другой.

Прыгадваю, што на саборы з боку парку была шыльда, дзе было напісана, у якім годзе ён быў пабудаваны, і што ўзвялі яго на сродкі прыхаджанаў. Адна бабулька гаварыла: "Яго будавалі на яйках, на малацэ, што прыхаджане насілі". І, сапраўды, кладка была такая, што савецкія ўлады не ведалі, як яго разваліць. А цэгла была адмысловая, паўметровая. Спатрэбілася больш за тры тоны выбухоўкі.

Другі ход адкрыўся ў 1955-1956 гг. на вуліцы, якая ідзе ад галоўнага ўваходу на рынак да вуліцы Чырвонаармейскай. Танкі ўсё на парады ездзілі па ёй, і правалілася частка вуліцы. Гады два ці тры сточныя воды туды сцякалі, пакуль не далі ўказанне засыпаць. Рабочыя ўсё разбілі і засыпалі. Якраз насупраць галоўнай брамы рынку.

Быў падземны ход з будынку, дзе цяпер знаходзіцца крама […]. Ён ішоў у бок Ружанскіх могілак, дзе ў кар'еры быў кафельны завод нейкага яўрэя. Падчас вайны ў ходзе людзі хаваліся. Мая нябожчыца-цешча распавядала, як яна там хавалася.

У 1956-1957 гг. я разам з Юрыем Марозам рабіў інвентарызацыю Троіцкай царквы для падатковай інспекцыі. Царкоўны староста Крупко нас вадзіў і паказваў: "Сюды можаце залезці, туды можаце залезці". І мы лазілі па сутарэннях пад царквой. Уваход быў з боку рамеснай вучэльні (цяпер там інтэрнат). Праз акно мы лазілі ў сутарэнні, а там ход быў правалены, туды мы таксама залазілі... Там труны дубовыя стаялі, вялікія. Іх было некалькі дзясяткаў. Памятаю, што ў адной труне ляжаў ксёндз забальзаміраваны, фартушок белы быў на ім...

Рамеснікі даведаліся, што мы былі ў сутарэннях і дзе ўваход — палезлі туды таксама. Выцягнулі



*Школьная вуліца, 2015 г. Фота Аляксандра Ярша.*

мерцвяка і паставілі каля ўваходу ў сталоўку, ды яшчэ змайстравалі надпіс: "Прыйшоў за дабаўкай!" Са сталоўкі жанчына ішла, дык, як пабачыла мерцвяка, Богу душу аддала. Калі прыйшла міліцыя, рамеснікі за ногі цягалі мерцвяка вакол царквы. Прымусілі іх яго занесці назад, у скляпенні, а ўваход замуравалі.

Расказвалі, што падчас вайны людзі хаваліся ад немцаў у сутарэннях Троіцкай царквы. А з ёй побач знаходзілася яўрэйскае гета, якое было агароджанае калючым дротам.

Побач з маім домам знаходзіцца будынак ЗАГСу (на 1998 год — С. Ё.). Па вайне ў ім была камендатура, пасля — пракуратура, пасля жылі нейкія людзі. У канцы 1960-х — у пачатку 1970-х гадоў будавалі плот каля ЗАГСу. Тады і здарыўся правал. Экскаватар разбіў каўшом кладку і адкрыўся падземны ход. Шырыня ў яго была каля 2,5 метраў. І цэгла была такая ж, як і каля сабору. Ход гэты ішоў з боку плошчы Леніна ў бок Троіцкай царквы. Яго завалілі. Тады і я сыпаў зямлю сабе ў агарод, бо неяк працаваў ломам, дык ён у зямлю пайшоў, як у багну...

У 1954-1955 гг. на плошчы Леніна ўстанаўлівалі помнік Сталіну (у тым месцы, дзе цяпер ліхтар і клумба). Я тады займаўся будаўніцтвам і патрапіў на гэты "аб'ект". Нас, будаўнікоў, было трох — я, Кіпель і Місінкевіч (іх ужо няма ў жывых). Працавалі па дамове. Зручна было — нам плоцяць грошы, мы іх самі па сваіх пашпартах атрымліваем у банку... Узяліся за працу. На тым месцы, дзе было вырашана ўсталяваць помнік, выявілася цэлая "пячора". Паглядзелі, аказалася, што падземны ход ішоў з боку Першамайскай вуліцы. Што рабіць? Завальвалі мы падзямелле, закладвалі туды рэйкі. Нарэшце, задачу выканалі.

У пачатку 1960-х помнік Сталіну было вырашана знішчыць. Рабілася гэта ўначы. Міліцыя ачапіла ўсе падыходы да плошчы. Помнік быў вялікі, большы за помнік Леніну, які стаіць на Першамайскай вуліцы. Яго доўга ламалі. Нарэшце, падклалі 200 кг выбухоўкі, падарвалі. Помнік па кавалках завезлі дзесьці ў Дзеравянчыцкі лес і кінулі ў яр. А галаву Сталіна нам нельга было выкідваць. Таму яе і паклалі ў падвале райкаму

*Спаса-Праабражэнскі сабор у першыя пасляваенныя гады.*

партыі (цяпер у тым будынку санэпідэмстанцыя). Калі райкам пераехаў, там стаў гарвыканкам, а галава ўсё яшчэ ляжала. Праз гады два яна кудысьці знікла.

Ведаю таксама, што ў раёне пошты на вуліцы Маякоўскага былі выяўленыя два падземныя хады, толькі ўжо не такія вялікія, як каля сабору ці ЗАГСу. Верагодна, яны ішлі з касцёла, што на Першамайскай вуліцы. Шырыня хадоў (а яны былі таксама зводныя) была дзесьці каля 1,5 метра. Іх засыпалі...

Расказвалі, што падчас вайны ў будынку 5-й школы былі савецкія ваеннапалонныя. І на тэрыторыі школы, бліжэй да вуліцы Карла Маркса, нібыта, знайшлі падземны ход.

Калі ў пачатку 1970-х на Першаймайскай вуліцы ўсталёўвалі помнік-танк, дык у тым месцы ўтварыўся правал. Праход быў да недалёкага будынку бібліятэкі. Яго засыпалі. Нешта падобнае было і падчас устаноўкі помніка Леніну на Першамайскай.*

Наогул, у пасляваенны час падчас пракладкі камунікацыяў у горадзе ўсе падземныя хады былі знішчаныя. Амаль усё было перакапана. Наўрад ці яшчэ штосьці магло захавацца.

Запіс зроблены **Сяргеем Яршом** у лютым 1998 года.

**Помнік быў устаноўлены ў 1950 годзе. Гл.: Помнікі Слоніма. С. 68.*

# Сустрэча з краязнаўцамі

У траўні ў Слонімскай раённай дзіцячай бібліятэцы прайшла сустрэча з краязнаўцамі Сяргеем Чыгрыном і Ігарам Пракоф’евым. Яны распавялі школьнікам пра свае пошукі, публікацыі, планы. Між іншым, гаворка ішла і пра “Слонімскі край” (на здымку).




*Фота: racyja.com*

# Вяртанне генерала Яна Канопкі



У вайне 1812 года паміж Францыяй і Расіяй, якая самым непасрэдным чынам закранула і беларускую зямлю, заўважны след пакінуў наш зямляк Ян Канопка (1877 — 1814), ураджэнец Скоўдзічаў. Удзельнік вызваленчага паўстання Касцюшкі, ён пасля яго паражэння трапіў на эміграцыю. Разам з іншымі ўраджэнцамі ВКЛ запісаўся ў склад французскай арміі, ваяваў у Італіі і Іспаніі. У 1811 годзе стаў генералам, атрымаў тытул барона імперыі. Канопка ўдзельнічаў у паходзе Напалеона на Расію ў 1812-м. Аднак наш зямляк, у той час ужо славуты вайсковец, не здабыў сабе новай славы. Яго полк быў разбіты на роднай Слонімшчыне, а сам генерал трапіў у палон да рускіх.

З лёгкай рукі некаторых даследчыкаў Ян Канопка застаецца ў гісторыі няўдачнікам, дзіваком, лёгкадумным камандзірам. Але ці быў ён такім?

**Камандзір**
**“мяцежных ліцьвінаў”**

У навукова-папулярнай літаратуры, у публікацыях у СМІ звычайна выкладаецца адна і тая ж інфармацыя пра падзеі кастрычніка 1812-га. Васіль Супрун у сваёй працы, прысвечанай гісторыі Слонімшчыны, піша: “Вярнуўшыся на радзіму, генерал не мог не расслабіцца, не пагасцяваць. Пасля нечаканых трывожных вестак аб набліжэнні да горада групы Чапліца Канопка падняў полк. У Слонім Чапліц уварваўся зусім нечакана 20 кастрычніка… полк паспешна пакінуў Слонім і адышоў у напрамку Дзятлава… Чапліц з налёту разграміў полк Канопкі і захапіў у палон самаго генерала, 13 афіцэраў і 235 уланаў. Астатнія рассеяліся ва ўцёках”.[1]

Падобны тэкст Супруна трапіў і ў кнігу “Памяць”.[2] Высвятляецца, што краязнаўца пераказваў публікацыі польскага гісторыка міжваеннага часу Валер’яна Харкевіча (між іншым, гэта ён называў Канопку “лёгкадумным камандзірам”). У 1936 годзе Харкевіч выдаў свой артыкул пра падзеі 1812 года на Слонімшчыне асобным адбіткам.[3] Сам Валер’ян Харкевіч спасылаўся на кнігу генерал-лейтэнанта рускай арміі Аляксандра Міхайлоўскага-Данілеўскага, якая пабачыла свет ў 1839-м.[4] Зазірнем у яе.

ОПИСАНІЕ
ОТЕЧЕСТВЕННОЙ
ВОЙНЫ
ВЪ 1812 ГОДУ,
по
ВЫСОЧАЙШЕМУ
ПОВЕЛѢНІЮ
сочиненное Генералъ-Лейтенантомъ
*Михайловскимъ-Данилевскимъ.*
ЧАСТЬ ТРЕТЬЯ.
САНКТПЕТЕРБУРГЪ.
Печатано въ Военной Типографіи.
1839.

Міхайлоўскі-Данілеўскі піша, што Яфіма Чапліца з Пружан у Слонім накіраваў рускі генерал Фабіян Остэн-Сакен, камандзір корпуса ў арміі Тармасава (яна з Валыні прасунулася на беларускае Палессе). Ён меў загад "захапіць 2-тысячны гвардзейскі полк, які фармаваўся ў Слоніме з мяцежных літоўцаў пад камандаваннем Канопкі". Атрад Чапліца складаўся з 2 егерскіх, Паўлаградскага гусарскага, 2 казачых палкоў і коннай роты Арнольдзі. За суткі яны пераадолелі 70 вёрстаў і перад світаннем 8 кастрычніка (20 кастрычніка па новаму стылю) падыйшлі да горада.

Перадавую калону вёў Арнольдзі, які добра ведаў Слонім. Ён меў загад незаўважна акружыць дом Канопкі, але там нікога не было, нават варты. Арнольдзі высветліў, што за гадзіну да гэтага Канопка даведаўся пра набліжэнне рускіх войскаў, сабраў полк і пайшоў на Дзятлава. Сваю жонку і жонак генералаў Дамброўскага і Заёнчэка ён адправіў з 250 уланамі і палкавой скарбонкай на Дзярэчын.

Высвятляецца, што капітан Арнольдзі не сам прыняў рашэнне даганяць атрад са скарбонкай, а яму загадаў Чапліц, які "пагнаўся за Канопкам". "Чапліц дагнаў і разбіў полк, а войска Данскога палкоўнік Дзячкін параніў пікай Канопку і ўзяў яго ў палон", — піша Аляксандр Міхайлоўскі-Данілеўскі. Тым часам Арнольдзі "разагнаў уланаў і ўзяў скарбонку, якая складалася з 200000 франкаў". Жонкі генералаў паспелі пераправіцца на пароме праз раку і не трапілі ў палон. Агулам атрад Чапліца ў той аперацыі ўзяў у палон, акрамя генерала, 13 афіцэраў і 233 ніжэйшыя чыны. "Пазбавіўшыся свайго начальніка, увесь… полк разбегся, што мела важныя наступствы і на астатнія фармаванні ў Літве… полк Канопкі лічыўся ядром гэтай хеўры", — піша далей даследчык. Ён адзначае, што складаўся полк з маладых людзей з шляхецкіх сем'яў і тых, хто вызначыўся ў іспанскай вайне (г. зн. вопытных ваяроў). Насельніцтва ВКЛ лічыла іх "неадольнымі віцязямі".[5] Міхайлоўскі-Данілеўскі не піша нічога пра тое, што Канопка быў лёгкадумны ці кепскі камандзір.



*Генерал Яфім Чапліц.*

Некалькі публікацый пра падзеі 1812 года здзейсніў гісторык Васіль Герасімчык. Праўда, амаль нічога новага ён не дадае, пераказвае вядомую інфармацыю, у тым ліку і ўспаміны Юзафа Пшэцлаўскага, хаця на іх і не спасылаецца. Пра разгром палка Канопкі піша коратка: "Чапліц затрымаў полк Канопкі па дарозе да Дзятлава і імклівым ударам разбіў яго". Згадвае "пралікі Канопкі", які "шмат часу губляў на забавы".[6]

У іншым артыкуле Герасімчык піша, што "на вуліцах Слоніма завязаўся невялікі бой паміж маладымі гвардзейцамі Напалеона і шматлікімі салдатамі рускай арміі".[7] Але не тлумачыць, якія сілы ў ім удзельнічалі. Найхутчэй гісторык зноў пераказаў успаміны Пшэцлаўскага, які пісаў: "Маладыя гвардзейцы біліся адчайна, але не маглі ўтрымацца супраць пераўзыходзячых звыш усялякай супастаўнасці сілаў". З тых жа ўспамінаў В. Герасімчык узяў згадку, што "добры генерал" Чапліц, нібыта, загадаў шкадаваць маладых уланаў і забіраць іх у палон.[8]

**"Недаравальная саманадзейнасць генерала"**

Як бачым, інфармацыя пра падзеі 20 кастрычніка 1812 года ў Слоніме мінімальная, а часам і супярэчлівая. Даследчык Уладзімір Лякін паспрабаваў сабраць усе даступныя матэрыялы па тэме ў сваёй грунтоўнай працы.[9] Ён сцвярджае, што 3-ці полк шэвалежэраў-уланаў імператарскай гвардыі фармаваўся ў Варшаве, дзе атрымаў усё неабходнае. На той час у ім было 422 чалавекі — два эскадроны з пяці. У канцы верасня 1812 года Канопка атрымаў загад перадыслакавацца ў Мінск — трэба было ўмацаваць абарону горада, і не толькі як камунікацыйнага вузла, але і месца, дзе знаходзіліся буйныя склады харчавання, патрэбнага арміі Напалеона.

Полк Канопкі на нейкі час спыніўся ў Гродне, дзе набіраліся добраахвотнікі. Наборам камандаваў маёр К. Таньскі, але колькі чалавек папоўнілі падраздзяленне, дакладна невядома. Ёсць звесткі, што да палка маглі далучыцца больш за 300 чалавек.[10] А пасля ён пайшоў на Слонім, дзе апынуўся 5 кастрычніка (а не летам, як піша Пшэцлаўскі). Ян Канопка не ўтрымаўся, каб не пабываць на малой радзіме і пабачыць сваіх родных. Відаць, была надзея і на хуткі набор добраахвотнікаў.

Лякін піша: "Удзельнікі і відавочцы тых падзей, дый ваенныя гісторыкі сыходзяцца на

думцы, што адной з галоўных прычын Слонімскага разгрому стала недаравальная саманадзейнасць генерала. І гэта быў не першы падобны выпадак у біяграфіі славутага героя".[11] Даследчык прыводзіць прыклад, як у сакавіку 1809-га ў Іспаніі "праз непаваротлівасць і непрадбачлівасць" Канопкі яго ўланскі полк быў атакаваны і разбіты, толькі яго частка вырвалася з акружэння, быў страчаны палкавы штандар. Камандзіра часова адхілілі ад пасады. Палку пагражала расфарміраванне, але ўдалося рэабілітавацца ў траўні 1811-га, калі былі разгромлены англічане пры Альбуэры, захоплены варожыя сцягі. Тады Канопка стаў генералам і атрымаў тытул барона імперыі.

Уявіце сабе, як у Слоніме сустракалі напалеонаўскага генерала! "Расквечаны прысутнасцю патрыятычна настроеных дам і бурнай праявай шляхецкага энтузіязму, пастой напалеонаўскіх гвардзейцаў у Слоніме грымеў мазуркамі і паланэзамі", — піша Уладзімір Лякін. Ён прыводзіць успаміны падпаручніка Ю. Гарайскага, які не трапіў у палон 20 кастрычніка. Удзень адбывалася вайсковая падрыхтоўка моладзі, а ўвечары "кіпела вясёлае жыццё, якое прыцягвала навакольную шляхту".[12]

**Полк Канопкі мог налічваць тысячу чалавек, праціўнік меў у 5 разоў больш**

Дагэтуль невядома, колькі чалавек было ў складзе палка Яна Канопкі. Калі да 422, якія выбылі з Варшавы, дадаць "больш за 300" добраахвотнікаў у Гродне, атрымліваецца больш за 700 чалавек. Пра колькасць набраных добраахвотнікаў на Слонімшчыне згадвае В. Герасімчык — "каля 800 асоб". Лічбу гэтую ён, відаць,



*Генерал Іван Арнольдзі.*

узяў ва ўсё тых жа ўспамінах Пшэцлаўскага (падчас вайны ён быў падлеткам). Але там не згадваецца, што ўсе "больш за 800 чалавек вышэйшага і тытулаванага дваранства"[13] былі з Слонімскага павета. Гэта можа быць агульная лічба з тымі ж гродзенскімі добраахвотнікамі. Ды і наўрад ці лічба дакладная. Герасімчык сцвярджае, што паводле плану полк мусіў складацца з 1280 чалавек, а ў Гродне ён быў "амаль сфармаваны".[14] У такім выпадку 800 чалавек у Слоніме ніяк не маглі набраць ды і не было ў павеце столькі ваяроў (у горадзе налічвалася менш за 3 тысячы жыхароў). Верагодна, было набрана 150-200 добраахвотнікаў. Полк мог ужо налічваць амаль тысячу чалавек.

Яфім Чапліц пазней успамінаў, што пра фармаванне ў Слоніме палка Канопкі даведаўся ад разведчыкаў. Ён звярнуўся да генерала Сакена па дазвол атакаваць, той — да адмірала Пятра Чычагова, камандуючага 3-й Заходняй рускай арміяй (пасля злучэння з ёй Дунайскай арміі). І ён быў атрыманы, "для высвятлення становішча непрыяцеля".

Як піша Лякін, у генерал-лейтэнанта Чапліца было амаль 5400 чалавек — 4 батальёны, 12 эскадронаў, 15 сотняў нерэгулярнай кавалерыі (казакаў), артылерыя (12 гармат), якой камандаваў штабс-капітан І. Арнольдзі.

З Пружанаў яны выйшлі ўвечары 17 кастрычніка. Паколькі Арнольдзі ведаў Слонім, генерал Чапліц даручыў яму "ад Ружан весці калону яго войскаў". У Ружанах на кароткі адпачынак пакінулі пяхоту, а сам Чапліц з 2300 коннікамі і 4 коннымі гарматамі рушыў паскораным маршам.

Такім чынам, па гэтай версіі ў Чапліца было 2300 коннікаў, рэшта конніцы і пяхота (3100 чалавек) з артылерыяй былі на падыходзе. У Канопкі было ад 800 да 1000 чалавек, але атрад быў адпраўлены на Дзярэчын (у ім было, па розных звестках, ад 100 да 250 чалавек), яшчэ раней сышоў у бок Дзятлава маёр Таньскі з невядомай колькасцю вершнікаў. У любым выпадку нават толькі авангард атрада Чапліца ўтрая перавышаў колькасць палка Канопкі.

**Полк гвардзейцаў "трымаўся цвёрда", а яго камандзір не зрабіў ніводнай памылкі**

Уладзімір Лякін піша: "Нельга сказаць, што напад ворага заспеў Я. Канопку знянацку". Ён меў інфармацыю пра адступленне з баямі аўстрыйскіх войскаў ад Кобрына да Ваўкавыска. А 18 кастрычніка прыйшло распараджэнне мінскага губернатара неадкладна рухацца ў Нясвіж. Гарайскі прыгадваў, што Канопка збіраўся зараз жа выканаць загад і выйсці. Але, верагодна, яму падкінулі дэзынфармацыю, што да Слоніма ідзе толькі адзін казацкі полк. І ён перадумаў. Чакаў генерал і звестак ад раз'езду, пасланага на Ружанскі тракт, але яго ўланы трапілі там у засаду і загінулі. Канопка "прыняў фатальнае рашэнне не адмяняць прызначаны на гэты

вечар развітальны баль".[15]

Маёр Таньскі сцвярджаў пасля, што генерал "не слухаў сяброўскіх парадаў". І калі ён яму казаў пра неабходнасць хутка сыйсці са Слоніма, Канопка раззлаваўся і загадаў Таньскаму неадкладна вярнуцца ў Гродна, што ён і выканаў. Калі Таньскі з атрадам гусараў (іх колькасць невядомая, але не больш за некалькі дзясяткаў) быў ужо ў Дзятлаве, то атрымаў ад прыбылага са Слоніма капітана Юргашкі вестку пра разгром.

Уладзімір Лякін піша, што ўначы 20 кастрычніка Канопка атрымаў нарэшце дакладныя звесткі пра набліжэнне ворага і тэрмінова падняў па трывозе полк. Ён яшчэ паспеў пасլаць мінскаму губенатару вестку, што рускія войскі былі ўжо ў Чамярах. "Час быў безнадзейна страчаны", — адзначае Лякін.

Канопка адправіў палкавую касу і генеральскіх жонак з атрадам "па Гарадзенскім тракце", а сам "вывеў свае эскадроны на Ружанскі тракт і пашыхтаваў іх у баявы парадак, маючы намер затрымаць непрыяцеля". Далей даследчык адзначае, што "асноўныя баявыя дзеянні адбываліся за паўднёва-заходняй і паўночнай гарадскімі ўскраінамі, а таксама ля вёскі Галынка, за 25 вёрстаў на паўночны захад". Ён спасылаецца на ўспаміны А. Пшэцлаўскага, які сам у баі не ўдзельнічаў, паколькі быў падлеткам, ведаў пра яго ад сваякоў.[16]

Кароткае апісанне бою пакінуў Яфім Чапліц, які пісаў у рапарце генералу Ф. Остэн-Сакену, што а 5-й раніцы "збіўшы пікеты ворага з розных дарог, выгнаў непрыяцеля са Слоніма, які хацеў спыніць сілу, але быў не ў стане гэта зрабіць".[17] Тут важныя словы "хацеў спыніць сілу". Гэта




яшчэ адно сведчанне, што Канопка не кінуўся адразу наўцёкі, а прыняў бой каля Слоніма.

У пасляваенны час Чапліц апісваў слонімскі бой інакш: "Прыбыўшы на месца, я ўбачыў непрыяцеля, які трымаўся цвёрда… Я збіў ворага з дарогі, дзейнічаў адначасова ў некалькіх пунктах амаль усімі сваімі сіламі і бясконца гнаўся за ім. У гэтай бітве Канопка не зрабіў ніводнай памылкі, акрамя таго, што, дамагаючыся таннай славы, зрабіў колькі стрэлаў, каб паказаць, як гэта робіцца, людзям маладым, нядаўна ім набраным".[18]

**Ваяры Канопкі разбілі казацкі полк і адбілі тры атакі**

Лякін спасылаецца на нейкія польскія крыніцы і сведчыць, што спачатку Канопка паслаў у бой 2-гі эскадрон Солтана і той разбіў казацкі полк. Відаць, у Солтана былі самыя вопытныя ўланы. Але пасля паўлаградскія гусары, якія колькасна пераўзыходзілі эскадрон Солтана, адкінулі яго. На дапамогу Солтану быў пасланы 1-ы эскадрон Бяжынскага. І яны тройчы выбівалі гусараў са Слоніма. Але падыйшлі рускія егеры з артылерыяй, што і вырашыла зыход бітвы. "Спроба адыйсці на Дзятлава-Навагрудак была ўжо запознена", — піша даследчык.[19] З гэтага тэксту незразумела, дзе ж адбывалася бітва. Ці сапраўды гвардзейцы выбівалі рускіх "са Слоніма" ці яны выбівалі іх з Замосця на левабярэжжа?

Шэвалежэр 1-й роты 1-га эскадрону М. Касмалоўскі ўспамінаў, што Канопка са сваім палком у чаканні атакі непрыяцеля яшчэ ўвечары стаў перад горадам і быў гатовы яго сустрэць. І а 5-й гадзіне раніцы з'явіліся рускія войскі. І тут Канопка перадумаў прымаць бой, відаць, стала зразумела, што вораг яго пераўзыходзіць колькасна. Ён паслаў 1-шы эскадрон Солтана затрымаць ворага, а сам збіраўся праз горад з часткай палка выйсці на дарогу на Навагрудак і там пашыхтавацца ў баявы парадак. Гэта і было зроблена. Неўзабаве туды ж прыбылі ўланы Солтана, за якімі гналіся пераўзыходзячыя сілы казакаў. Канопка на чале трох ротаў атакаваў ворага і загнаў яго ў горад. Тры разы рускія атакавалі і кожны раз Канопка іх адкідваў і прымушаў адступіць у горад.

Але падчас трэцяй контратакі праз Шчару пераправіліся свежыя значныя сілы рускіх і пайшлі ў атаку. Канопка быў паранены і трапіў у палон.

А падпалкоўнік Бяжынскі з часткай палка ў беспарадку адступаў па дарозе на Навагрудак, успамінаў Касмалоўскі.[20].

**Пра месца бою**

"Схема бою за Слонім", змешчаная ў кнізе Уладзіміра Лякіна, вельмі дзіўная. Атрымліваецца, што полк Канопкі прыняў бой на паўднёвы-усход ад Слоніма (дзесьці ў раёне цяперашніх Ружанскай і Брэсцкай вуліц). А пасля паражэння адступаў па левабярэжжы Шчары па нейкай дарозе на Ліду (накірунак руху атрада са скарбонкай паказаны таксама не зусім дакладна). Але ж Віленскі тракт пракладзены на правабярэжжы Шчары! Ды і ёсць жа згадка ва ўспамінах Ю. Пшэцлаўскага, што Канопка ўцякаў па "чорным Навагрудскім тракце". А гэта на правабярэжжы, толькі больш на паўночны ўсход. Верагодна, маецца на ўвазе так званы Ісаевіцкі гасцінец, які "найкарацейшым шляхам злучаў горад Слонім з… Навагрудкам". Ён "быў пракладзены са Слоніма праз Шпаковую гару — Ісаевічы — Дварэц — Наваельню".[21]

Калі генерал Канопка не збіраўся абараняць горад, бой з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка ў пазначаным на схеме месцы не меў сэнсу. Немагчыма было наладзіць абарону і на вузкіх гарадскіх вуліцах, дзе цяжка было разгарнуцца кавалерыі. Тым больш, што рускія збіраліся атакаваць Слонім з некалькіх бакоў і ніякіх умацаванняў, якія маглі б іх спыніць, не было. Адзінае, што мог зрабіць Канопка, гэта адвесці полк на правабярэжжа Шчары. Мост праз канал Агінскага і Шчару быў толькі на цяперашняй вуліцы Янкі Купалы (Маставой). На другім баку можна было паставіць заслон, пакуль асноўныя сілы адступалі па Віленскім ці Навагрудскім тракце. Альбо правесці "развед-ку боем" сіламі ўсяго палка — магчыма, дакладнай інфармацыі пра сілы рускіх Канопка ўсё ж не меў. Верагодна, ён хацеў гэта праверыць, а не адразу адступаць.



*Генерал Канопка ў баю.*

Успаміны М. Касмалоўскага найбольш праўдападобныя. На ўездзе ў Слонім з боку Ружан ды на гарадскіх вуліцах маглі адбыцца толькі невялікія сутычкі. Асноўны бой адбыўся альбо на Замосці, на плошчы перад касцёлам, альбо далей — за горадам, каля дарог, якія вялі на Навагрудак і Вільню.

Ёсць дзіўная згадка ў публікацыі Васіля Афанасіка, што полк Канопкі быў разбіты пад Мізгірамі, а гэта ж на поўдзень ад Слоніма![22] Яна не адпавядае рэчаіснасці. Міхаіл Рылко, грунтуючыся на даследчай працы Яўгена Леашэні, пісаў, што рускія войскі дагналі калону палка Канопкі на тракце і яна расцягнулася на значную адлегласць, у канцы быў "атрад прыкрыцця".[23] Як бачым, і гэтая версія няслушная. Аднак у Канопкі быў абоз і ён сапраўды мог паспець яго адправіць у бок Навагрудка, і калона расцягнуўся на кіламетры, што маглі бачыць рускія вайскоўцы.

**Пра страты**

Расійскі бок заявіў пра 100 забітых ліцьвінаў, у палон узялі 1 генерала, 2 штаб-афіцэраў, 11 афіцэраў і 460 шараговых уланаў. Польскія крыніцы падаюць іншыя лічбы: 14 забітых, у палоне 1 генерал, 13 афіцэраў, 233 падафіцэраў і шараговых ваяроў. Сярод афіцэраў — маёр Ю. Хлусевіч, камандзіры эскадронаў А. Солтан і А. Бяжынскі, 5 капітанаў, 3 паручнікі, 2 падпаручнікі. Лякін робіць выснову, што ў палон трапіла "палова палка". Гэта так, калі верыць супярэчлівым дадзеным рускага боку. Больш верыцца ў лічбы польскага боку, а гэта хіба чацвёртая частка палка. Ад пагоні ўратаваліся сотні ваяроў. Праз два тыдні ў Смаргонях сабраліся 8 афіцэраў і 194 падафіцэры, жаўнеры з 1-га і 2-га эскадронаў. Больш за 200 чалавек! Невядомая дакладная колькасць тых, хто дабраўся да Гродна, дзе фармаваў полк маёр К. Таньскі.[24] Таму нямала ваяроў Канопкі ў наступныя гады працягвалі ваяваць, але ўжо на захадзе, у іншых краінах Еўропы.

Шкада, што мы не маем версіі тых падзеяў ад імя Яна Канопкі. Здаецца, што ўсё ж нямала важных фактаў застаецца "за ка-

драм". Ці ўдзельнічалі маладыя добраахвотнікі ў баю з рускімі войскамі, ці генерал іх бярог і трымаў у тыле? У атаку ён хадзіў толькі "з трыма ротамі", верагодна, з больш вопытнымі ваярамі. А можа Канопка часткова распусціў слонімскую моладзь па хатах? Ці адправіў значную частку маладых навабранцаў на Вільню ці Навагрудак, а сам з некалькімі сотнямі вершнікаў застаўся прыкрываць іх адыход? Магчыма, у рускіх і французскіх архівах яшчэ ўдасца адшукаць дакументы, якія дазволяць адказаць на гэтыя пытанні.

**Вырашыў абараніць родны горад**

Што атрымліваем? Генерал Ян Канопка вырашыў не здаваць без боя родны горад. І гэта не быў нейкі жэст — ён спадзяваўся на перамогу, верыў у ваяроў, якія абаранялі сваю зямлю. Нягледзячы на няроўныя сілы, гвардзейцы ВКЛ адбілі атакі праціўніка і нанеслі яму значныя страты. І толькі нечаканы падыход свежых рускіх падраздзяленняў прывёў да паражэння Канопкі. Ён аддаў загад на адыход, які, як можна меркаваць, адбываўся па некалькіх дарогах, у тым ліку і па "чорным Навагрудскім тракце", дзе быў паранены і ўзяты ў палон генерал.

Ён не быў першым ці апошнім генералам французскага войска, які трапіў у рускі палон. Яго полк перастаў існаваць як вайсковая адзінка, аднак большая частка вайскоўцаў не трапіла ў палон — яны адыйшлі ў бок Навагрудка, Вільні і Гродна. Рускія генералы не хваліліся захопленым палкавым сцягам — верагодна ён не трапіў ім у рукі.

Як вынікае з успамінаў Юзафа Пжэцлаўскага, мясцовая эліта, сыны якой кароткі час пабылі гвардзейцамі Канопкі, мела скажоную інфармацыю пра тыя падзеі. У свядомасці захаваўся негатыў — генерал-дзівак загубіў полк і патрыятычную моладзь. Таму не дзіўна, што ў міжваенны час, калі польскія ўлады актыўна піярылі свой пантэон герояў, у ім не знайшлося месца для Яна Канопкі. Хаця той жа Тадэвуш Касцюшка, кіраўнік вызваленчага паўстання і яшчэ адзін наш зямляк, таксама прайграў сваю галоўную бітву і трапіў у палон да рускіх.

Канопка знаходзіўся пад наглядам у Херсоне. У 1814 годзе яго вызвалілі, прапанавалі працягнуць службу, ачоліць кавалерыйскую брыгаду ў Польшчы, якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Ён адмовіўся. Жыў у Варшаве, дзе і памёр 12 снежня 1814 года ва ўзросце 37 гадоў. Здароўе падарвалі раны, атрыманыя ў напалеонаўскіх войнах, і рускі палон. Дагэтуль невядома, дзе быў пахаваны Ян Канопка. Дзятлаўскія краязнаўцы чамусьці думаюць, што магіла можа быць у іх раёне, але яе так і не знайшлі. На Слонімшчыне яе таксама не знойдзена. Вось і няма ніякага месца, дзе была б ушанаваная памяць нашага земляка.

Увогуле было б добра ўсталяваць помнік генералу Канопку пры дарозе са Слоніма на Жыровічы, каля павароту на Скоўдзічы. Турысты не праедуць міма. Даведаюцца пра кароткае і трагічнае жыццё Яна Канопкі, большую частку якога ён правёў на чужыне. Гэта і будзе "рэабілітацыяй" для слонімскага генерала.

●***Аляксей Крук***

*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 63.*

*[2] Супрун В. Слонімшчына ў час вайны 1812 г. // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 102.*

*[3] Пра гэтую невялічкую кніжку гл. у наступнай публікацыі: Герасімчык В. Пра падзеі 1812 года // Слонімскі край, 2016, № 8. Верасень. С. 9.*

*[4] А. Михайловский-Данилов-ский. Описаніе Отечественной войны въ 1812 году. — Санкт-Петербургъ, 1839. Часть третья.*

*[5] Тамсама. С. 224-226.*

*[6] Герасімчык В. Слонімшчына ў вайне 1812 года // Отдушина, 2016, № 3, 13 студзеня.*

*[7] Герасімчык В. Генерал Ян Канопка на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 9. Кастрычнік. С. 4.*

*[8] Ципринус [Юзаф Пшэцлаўскі]. Калейдоскоп воспоминаний. 1811 и 1812 годы // Русскій Архивъ, 1872, 12 выпуск. С. 2303-2304.*

*[9] Лякін У. Ліцьвіны ў гвардыі Напалеона. — Мінск: "Тэхналогія", 2017.*

*[10] Слонімскі край, 2016, № 9. Кастрычнік. С. 4.*

*[11] Ліцьвіны ў гвардыі Напалеона. С. 133.*

*[12] Тамсама. С. 133-134.*

*[13] Калейдоскоп воспоминаний… С. 2301-2302.*

*[14] Слонімскі край, 2016, № 9. Кастрычнік. С. 4.*

*[15] Ліцьвіны ў гвардыі Напалеона. С. 134.*

*[16] Тамсама. С. 134-135.*

*[17] Тамсама. С. 135.*

*[18] Тамсама.*

*[19] Тамсама.*

*[20] Тамсама.*

*[21] Місцюкевіч А. Гісторыя забытых гасцінцаў // Газета Слонімская, 2011, № 7, 9 лютага.*

*[22] Афанасик В. Генеральская Слонимщина // Слонімскі веснік; http://www.slonves.by/2014/06/generalskaya-slonimshhina/*

*[23] Рылко М. Уцёкі генерала Канопкі // Слонімскі край, 2016, № 9. Кастрычнік. С. 5-6.*

*[24] Ліцьвіны ў гвардыі Напалеона. С. 136.*

# Загадкавыя нумаркі













Здавалася, што гэтыя нумаркі, якія вы бачыце на здымках, з'яўляюцца нумарамі дамоў падчас існавання польскай улады ў 1920-1930-я гады. Аднак некаторыя краязнаўцы і гісторыкі сцвярджалі, што іх прымацоўвалі да веласіпедаў і мапедаў. І выдаваліся яны ў кожнай гміне. Былі і такія версіі, што гэтыя нумаркі чапляліся на вазы.

Але загадкавыя нумаркі не з'яўляліся пры Польшчы ні нумарамі дамоў, ні прымацоўваліся яны на веласіпеды, а тым больш на вазы. Гэтыя нумаркі ад брычак. Самых звычайных брычак, на якіх рамізнікі развозілі пасажыраў. Яны выдаваліся ўладамі павета або горада (гміны). Найчасцей на нумарках пададзены быў год яго выдачы, назва павета, горада (гміны) і чарговы нумар.

Табліцы мяняліся кожны год і мелі розны выгляд (кругападобны, авальны, квадратны і іншыя). А вось роварныя табліцы былі жоўтыя з чорнымі знакамі. Памер роварнай табліцы быў 120×76 мм. Нумар складалі літара і пяць лічбаў. Абавязвалі іх мець з 15 верасня 1936 года.

Прапаную чытачам "Слонімскага краю" некалькі нумаркоў з брычак Слонімскага павета.

●*Сяргей Чыгрын*

# Чыгунка Слонім — Навагрудак так і не з’явілася

Яшчэ ў 1886 годзе праз Слонім прайшла першая лінія чыгункі Баранавічы — Беласток. У нашым горадзе тады была адкрыта чыгуначная станцыя. Замест яе ў 1922 годзе пабудавалі чыгуначны вакзал, які захаваўся да сённяшніх дзён. Такі самы вакзал, як і ў Слоніме, быў пабудаваны і ў Бельску на Беласточчыне.

Нядаўна, гартаючы старыя падшыўкі віленскай газеты “Беларускі дзень” за 1928 год, знайшоў вельмі цікавую інфармацыю. У прыватнасці, паведамлялася пра тое, што плануецца пачаць будаўніцтва чыгункі Слонім — Навагрудак — Маладзечна. Усё будаўніцтва павінна было каштаваць 49 мільёнаў польскіх злотых. А гэта на той час былі вельмі вялікія грошы.

Польскі ўрад на гэта будаўніцтва шукаў фундатараў. Напрыклад, спадар Савіч, што працаваў у фірме, якой у 1928 годзе належала Налібоцкая пушча, паабяцаў навагрудскаму ваяводзе Бэчковічу выдаткаваць на будаўніцтва чыгункі 15 мільёнаў злотых.

20 траўня 1928 года адбыўся нават спецыяльны сход, прысвечаны будаўніцтву чыгункі Слонім — Навагрудак — Маладзечна. На ёй выступоўцы казалі, што думка наконт пабудовы гэтай чыгункі існавала даўно. Таму што дзвюх чыгунак, якія праходзілі праз Навагрудскае ваяводства, для патрэбаў гаспадарскіх спраў не хапала. З існуючых чыгунак толькі адна ішла на захад, гэта значыць Стоўбцы — Баранавічы — Слонім. А чыгунка Баранавічы — Ліда — Вільня мела для Навагрудскага ваяводства накірунак толькі мясцовага значэння.

Газета “Беларускі дзень” 30 траўня 1928 года пісала (падаецца ў арыгінале): “Нічога дзіўнага, што навааградзкае грамадзянства з вялікім заінтэрасаваньнем адносіцца да думкі будовы чугункі. Дзякуючы ініцыятыве п[ана] ваяв[оды] Бэчковіча думка гэная ўваходзіць на зусім рэальныя торы. Заінтэрасаваныя гаспадарскія і прамысловыя сфэры далі згоду прыйсьці з дапамогай, бяручы на сябе частку коштаў, г. зн. каля 20% і бяручы на сябе цяжар сфінансаваньня будовы пры помачы заграмічных капіталаў”.




Паводле прапанаванага праекту, чыгунка ішла б з Маладзечна праз Івянец, Налібокі, Шчорсы, Навагрудак, дзе крыжавалася б з другой лініяй Ліда — Баранавічы, ішла б потым на Дзятлава, Казлоўшчыну і да Слоніма.

На вялікі жаль, у канцы 20-х гадоў XX стагоддзя чыгунка Слонім — Навагрудак — Маладзечна так і не з’явілася. І ў Казлоўшчыне, і ў Дзятлаве, і ў Навагрудку чыгункі няма да сённяшніх дзён і, магчыма, ніколі яна не будзе пракладзена. Чыгункай сёння можна даехаць да нашага Слоніма з захаду на ўсход і з усходу на захад, а таксама да Наваельні Дзятлаўскага раёна. Бо ў Наваельні чыгунка была пабудавана ажно ў 1884 годзе, яна праходзіць з Вільні на Лунінец.

**●*Сяргей Чыгрын***



**Чугунка Слонім-Наваградак-Маладэчна.**

20-га траўня г. г. адбылася скліканая праз п. ваяводу Бэчковіча конфэрэнцыя ў справе будовы чугункі з Наваградку да Маладэчна і Слоніма.

Думка будовы чугункі, якая перарэзвала-б абшар Наваградзкага ваяводзтва менш-больш на палову, існавала ўжо даўно. Дасюлешнія дзьве чугункі, якія праходзяць праз Наваградзкае ваяводзтва, для патрэбаў гаспадарскіх нашага краю не хапаюць.

***Публікацыя ў газеце «Беларускі дзень».***

# Суд за гарадскі лес


и 4) что за удовлетворением иско-
вого требования, на ответчика въ
пользу истца следуетъ возложить
судебныя и за веденіе дела издержки
Окружный Суд, на основании 366 и 868
ст. Уст. Гр. Суд. определяетъ: обя-
зать Слонимскую Городскую Управу
исполнить въ точности условия
мировой сделки, заключенной его съ
Слонимскимъ мещанскимъ христиан-
скимъ обществомъ и утвержденной
19 марта 1881 года Гродненскаго

*Дакумент з судовай справы 1905 года.*

У мінулым нумары “СК” пачаў знаёміць чытачоў з судовай справай, якую слонімскія мяшчане ў 1930 годзе выйгралі ў магістрата.* Спрэчкі ішлі за 2520 дзесяцін лесу за ракой Ісай (старажытная назва — Ісарока, яна прысутнічае ў дакументах) недалёка ад Якімавічаў, права на карыстанне якімі ў 1669 годзе мяшчане атрымалі ад караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя ВКЛ. І гэта яны пацвердзілі арыгінальным дакументам. У судах актыўны ўдзел браў слонімец Пётр Сяменік, які зберагаў дакументы. Іх пасля перахоўвала яго дачка Ніна Пятроўна Сяменік (Лукашэйка).

Судовы працэс пачаўся яшчэ ў XIX стагоддзі. Да 1880 года слонімскія мяшчане бясплатна нарыхтоўвалі ў згаданым лесе за Ісай дровы. Аднак пры гарадскім кіраўніку Аляксандру Іванавічу Барклоўскім адбыліся змены — управа пажадала, каб мяшчане плацілі за лес поўную цану. Справа дайшла да суда. Мяшчане падалі іск на 30 тысяч рублёў. 21 сакавіка (па іншых звестках — 19 сакавіка) 1881 года ў Гродзенскай палаце крымінальнага і грамадзянскага суда паміж Слонімскім мяшчанскім хрысціянскім таварыствам і Слонімскай гарадской управай было заключана міравое пагадненне (і суд яго зацвердзіў). Карэнныя мяшчане (ад іх імя дакумент падпісалі Іван Вікенцьевіч Барук і Станіслаў Язэпавіч Шыманскі) маглі набываць лес (дровы, піламатэрыялы для хатніх патрэб) за палову цаны (управа мусіла атрымаць спіс гэтых людзей). У выпадку нейкага няшчасця (напрыклад, пажару) згаданыя слонімцы маглі карыстацца лесам бясплатна. Так сталася, што праз два месяцы, 25 траўня 1881 года ў Слоніме адбыўся вялікі пажар, які знішчыў больш за паўтысячы дамоў. Горад трэба было аднаўляць і лес для мяшчан быў вельмі дарэчы. Управа ўмовы пагаднення выконвала і прэтэнзій да яе не было.

У 1901 годзе ўправа забараніла мяшчанам уезду ў згаданы лес, стала адмаўляць ім у атрыманні дроў для хатніх патрэб. Паваленыя і сухія дрэвы сталі прадавацца іншым асобам, а гэта парушала міравое пагадненне. Цяжка сказаць, з чым звязанае рашэнне ўправы. Магчыма, з сыходам з пасады гарадскога кіраўніка Пятра Валеўскага, які нязменна займаў яе з 1885 года.**

2 сакавіка 1902 года іск на 1500 рублёў да Слонімскай гарадской управы ад імя Слонімскага мяшчанскага хрысціянскага таварыства падаў прысяжны паверана Іван Александровіч. Ён прасіў суд абавязаць управу дакладна выконваць умовы ранейшага міравога пагаднення, прызнаць, што ўправа не мае права прадаваць лес іншым асобам, спагнаць з адказчыка судовыя выдаткі на вядзенне справы.

У матэрыялах справы згадваецца адказ упаўнаважанага гарадской управы Дружылоўскага ад 25 красавіка 1902 года. У ім звяртаецца ўвага на тое, што іск мусіць падаваць таварыства (2/3 ад усяго складу), а не некалькі чалавек. Толькі тады можна гаварыць, што іск пададзены ад юрыдычнай асобы. Да таго ж, сцвярджае Дружылоўскі, афіцыйна таварыства не існуе. Другі аргумент — іск падалі толькі мяшчане-хрысціяне, якіх 46 чалавек. А ёсць у горадзе мяшчане-яўрэі і іх некалькі соцень. Больш таго, у міравым пагадненні 1881-га размова ідзе і пра мяшчан-яўрэяў, і пра дваран. Што да лесу, то паводле пагаднення, мяшчане маюць права нарыхтоўваць дровы з ламачча, а не з сухастою і буралома. Увесь лес ад ламачча яны ўжо ачысцілі і там ім няма чаго ўзяць, піша слонімскі чыноўнік.

Дружылоўскі падкрэслівае: гарадская ўправа не прызнае пагадненне законным і абавязковым для выканання, паколькі яно супярэчыць законам і не было ўхвалена губернатарам. Ён папрасіў у іску адмовіць, а справу спыніць.

5 траўня 1905 года Гродзенскі акруговы суд па грамадзянскім аддзяленні іск слонімскіх мяшчан задаволіў. Суд абавязаў управу дакладна выконваць умовы пагаднення. Аднак гэта быў не канец спрэчак. Далей справу разглядалі ў Пецярбургу і Вільні.

●***Сяргей Ёрш***

*Працяг у наступным нумары.*

**СЁ. Як слонімскія мяшчане выйгралі ў магістрата суд // Слонімскі край, 2018, № 4(26). Красавік. С. 11-13.*

***Пра яго гл. наступную публікацыю: Ёрш С. Пётр Валеўскі — кіраўнік Слоніма // Слонімскі край, 2016, № 8. Верасень. С. 1-2.*

Odpis.

Urząd Wojewódzki Nowogródzki.
Statut zatwierdzam.
Dn.23/XI 1921 r. Nr.58/3630
Wojewoda /-/ nieczytelny

S T A T U T.

§ 1. Związek Mieszczan Chrześcijan m. S Ł O N I M A.

I. Osoba związku

Związek mieszczan chrześcijan m. Słonima ma na celu podniesienie dobrobytu swych członków i tyczy się sfery wyłącznie gospodarczo-ekonomicznej. Miejsce związku jest m. Słonim.

§ 2. Dla osiągnięcia tego związku urządza się odczyty, pogadanki na tematy ekonomiczno gospodarczę, zakłada szkółki rolnicze, kursy dla dorosłych, roczno-ogrodnicze, odkrywa magazyny nasion, narzędzi rolniczych i t.p.

Uwaga. Termin działalności związku nie jest ograniczony.

II. Srodki związku.

§ 3. Srodki związku tworzą się ze składek członkowskich w wysokości 20 marek od osoby na miesiąc, ofiar i innych wpływów.

III. Prawa Związku.

§ 4. Związek posiada własną pieczęć z napisem "Związek mieszczan chrześcijan m.Słonim " . Pieczęć znajduje się u prezesa związku.

*Статут Саюза мяшчан-хрысціян г. Слоніма, 1921 год. З архіва Н. Лукашэйка (Сяменік).*

# Побыт панскага маёнтка Азярніца ў сярэдзіне XVI стагоддзя

У 6-м выпуску навуковага зборніка “Studia Historica Europae Orientalis“ за 2013 год быў змешчаны вельмі цікавы артыкул кандыдата гістарычных навук Наталлі Сліж пад назвай “СПРАВАЗДАЧА ЎРАДНІКА МАЁНТКА АЗЯРНІЦА ГАСПАДАРУ ІВАНУ ГАРНАСТАЮ АБ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫХ ПРАЦАХ (1553–1555.)”. У ім навукоўца на падставе выяўленага архіўнага матэрыялу робіць дэталёвы аналіз асаблівасцяў сярэднестатыстычнай шляхецкай гаспадаркі. На сённяшні дзень гэта адзіны такі знойдзены дакумент па гісторыі маёнтка Азярніца. Ён захоўваецца ў фондзе Архіва Патоцкіх з Радзыня ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Дадзеная гаспадарчая справаздача з’яўляецца інфарматыўнай крыніцай па штодзённым жыцці маёнтка і яго ўладальнікаў. Дакумент дэталёва прадстаўляе інфармацыю пра культуры, якія вырошчвалі ў Азярніцы, пра тое, як яны перапрацоўваліся і выкарыстоўваліся. Ён быў напісаны на старабеларускай мове.

Уласнік маёнтка Іван Гарнастай паходзіў з сям’і падскарбія ВКЛ Івана Гарнастая і Ганны Саламярэцкай. Ён быў адукаваным чалавекам і з’яўляўся дарсунішскім намеснікам, лыскоўскім і міжэрыцкім дзяржаўцам. Са справаздачы зразумела, што Гарнастай увесь час быў у дарозе. Нават калі прыязджаў у свой маёнтак, то не затрымліваўся там надоўга. У такой сітуацыі важную ролю ў маёнтку выконваўураднік. У яго абавязкі ўваходзіла назіранне за сельскагаспадарчымі працамі, своечасовы збор ураджаю, захоўванне яго і перапрацоўка, выконванне распараджэнняў гаспадара, падрыхтоўка справаздач. Згаданы дакумент сведчыць пра добрае выкананне працы ўраднікам, яго адукаванасць, веданне сельскай гаспадаркі. Нажаль у дакуменце не пазначана яго імя, але са зместу зразумела, што гэты чалавек добра ведаў сваю справу. А яшчэ ён валодаў навыкамі вырабу піва і гарэлкі.



*Герб “Гіпацэнтаўр” роду Гарнастаяў.*

У Азярніцы ў сярэдзіне XVI стагоддзя вырошчвалі жыта, авёс, ярыцу, пшаніцу, ячмень, грэчку. Дамінуючай культурай было жыта. Ураджай захоўваўся ў скіртах. Малаціць кожную скірту пачыналі па загаду гаспадара. Жыта ішло на розныя патрэбы: продаж, абмен, падаткі, хлеб, муку, піва, гарэлку. На продаж жыта адпраўлялі ў Вільню, а за атрыманыя грошы куплялі соль, селядцы, шчупакоў, шапку для пана, прылады да воза. Бочка жыта ў 1553 годзе каштавала 8 грошаў. Жыта выдавалася па загаду гаспадара ці гаспадыні розным асобам: манахам Жыровіцкага манастыра, мужыкам на хлеб, слонімскаму яўрэю Аўраму Малому, яўрэю Аўраму Майровічу, служэбнікам і іншым асобам. Выкарыстоўвалася яно як форма разліку: Учынскай за 50 куранят, слонімскаму мешчаніну Навіцкаму за мёд, Жуку Скачко за шаравары (2 бочкі), Аніску Аблоніку за піва. Жыта давалася на корм свінням і каням. Частка жыта была страчана з-за дзікоў. Зерне таксама ішло на хлеб.

Пры выдатках зерня адзначалася, колькі пайшло на гасцей. У чэрвені 1553 года. хлеб быў выдаткаваны падчас візіту Нарбута, Богуша Міткевіча, Яна Крывоймужа і яго жонкі, Еўціка і Юхно. Калі І. Гарнастай жыў у Промезі і Блізной, яму з Азярніцы прывозілі жыта, піва, гарэлку. Які гатунак піва варылі ў Азярніцы і якой якасці, па дадзеным дакуменце меркаваць немагчыма. Верагодна азярніцкі ўраднік умеў добра рабіць спіртовыя напоі, бо гаспадар іх ужываў не толькі падчас побыту ў Азярніцы, але прасіў прысылаць, калі жыў у іншых маёнтках. Выпівалася шмат піва падчас побыту І. Гарнастая ў Азярніцы. Варылася яно звычайна спецыяльна на прыезд гаспадара.

Такім чынам, гаспадарчая справаздача ўяўляе сабой не толькі ілюстрацыю з жыцця шляхты ВКЛ, але і асвятляе цікавыя асаблівасці вядзення гаспадаркі ў шляхецкім маёнтку сярэдзіны XVI стагоддзя.

●*Міхаіл Шуляк*

# 80 гадоў таму ў Слоніме была забастоўка



SŁOWO

**Czy dojdzie w Słonimie do wybuchu?**

W Słonimie wybuchł strajk około 1.000 robotników. Jakkolwiek zważywszy rozmiar strajku, bo prawie połowę wszystkich robotników miasta,tudzież jego przyczyny, nie tylko na tle ściśle ekonomicznych stawek, ale również specyficznych warunków, gdzie **wszyscy pracodawcy są żydzi i wszyscy strajkujący chrześcijanie** — nie stanowiłby ten wypadek o zdarzeniu rewelacyjnem. Gdyby... gdybyśmy nie przyswoili sobie zasadniczych formułek, w których szablon zwykle ujmujemy zjawiska społeczno - polityczne doby bieżącej. Otóż strajk w Słonimie jest pod tym względem czemś zgoła różnem.

**TO NIE JEST ZWYKŁY STRAJK**

Przywykliśmy mimowoli kojarzyć pewne wyrazy: kazanie — musi być „podniosłe"; uśmiech bandyty — „cyniczny". W ten sposób ruch robotniczy kojarzy się u nas — z lewicowością; antysemityzm — z prawicą; strajk — z rozruchami; 1-go maja — z pochodem robotniczym; kapitalizm — z reakcją; prawosławni i katolicy — ze sporem wzajemnym i t. d. w luźnem zestawieniu.

Otóż warunki poczynają się na świecie układać w sposób coraz bardziej wywracający dotychczasowe szablony. Nowe sytuacje, które przenikają do kraju z zewnątrz, przerabiają ją również wewnątrz. Trudno oczywiście wymagać, aby dorzecze Szczary miało pod tym względem przodować w Polsce, ale właśnie dlatego, że leży dziś na uboczu, w prowincji, na „kresach", w zachałustju, w bagnach, w rezerwatach bobrowych, służyć może za tem charakterystyczniejszy przykład

**NAPRZEKÓR SZABLONOM**

A więc cały kapitał, nawet ponoć miljonowy (Jezierski) należy do żydów, którzy z tytułu swej rasy, przymykają raczej do politycznej grupy Fołksfrontu, do wrogów gen. Franco, do poputczików lewicyzmu, aż do bolszewizmu włącznie. To nie jest również gdzieindziej nowe, ale dla dalszego zestawienia potrzebne:

**Robotnicy słonimscy**, ci właśnie strajkujący, prawie połowa ogólnej masy, to — raczej klerykali, niźli socjaliści. Przez ich chlebo- i pracodawców (kapitalistów) przezywani i wymyślani per: endeki, faszyści, hitlerowcy!

Ruch antysemicki idzie od dołu i od dołów, wchłonięty przez ruch robotniczy.

Prawosławni i katolicy tworzą jedną, niezwykle solidarną organizację i choć prawosławnych jest większość, autorytetem organizacji jest ksiądz obrządku łacińskiego.

Strajk ma oblicze żelaznej subordynacji, spokoju i powagi, a jego proklamowanie nie wywołało nawet tysiącznej części tego zamętu, co potrafią wywołać niektóre „rozporządzenia" starościńskie. (Exemplum: pow. Wil. - Trocki).

Robotnicy bojkotują święto 1-go maja.

Strajkujący biorą udział w święcie państwowem 3-go maja, czwórkami i poważnie.

Wszystko to w Słonimie może nam posłużyć do małego chociaż przyczynku „nowych czasów" i dlatego wypadki tamtejsze można śledzić z całem zainteresowaniem.

Rozwinęły się one na forum następującem:

**PO OBU STRONACH BARYKADY**

Jeżeli żydom ma być źle w Polsce, to chyba Słonim w jej granicach nie leży! Dobra doczesne należą tam tylko do żydów. Handel i przemysł. Pieniądze i wpływy i potęga. Chrześcijanom zaś przypadł w udziale ciężki los · pracy najemnej, roboczej, brudnej, mokrej.

Wszystkie 6 tartaków (razem z Albertynem) w ręku żydowskich,. wielkich kapitalistów. Kancepolski. Córka jego wspólnika Fajna, aresztowana za komunizm. Jezierski, „miljoner" Dubkowski, który najgorzej podobno obchodzi się z robotnikami. Rabinowicz, dwaj synowie aresztowani za komunizm.

Po drugiej stronie barykady 600 robotników tartacznych, katolików i prawosławnych, dla których listy płacy sporządzane są w języku żydowskim, którym odmawiają gumowych butów do pracy w wodzie, których stawiają po 3-ch, zamiast po 4-ch, do ciężkich kloców, których traktują arogancko.

Takby się przedstawiał szkic moralny słonimskiego zatargu. Ale bądźmy ściśli: czasy, jakby one nie były nowe, dosyć są zmaterjalizowane, aby główną przyczyną pozostały warunki materjalne płacy. Robotnicy więc twierdzą, że ich kapitaliści wyzyskują. Ale w Słonimie mówi się raczej: żydzi wyzyskują chrześcijan.

**STAWKI**

**Mężczyzna** zarabia tam przeciętnie 2 zł. 30 gr. dziennej stawki, kobieta 1 zł. 20 gr. — Wielkie z tego powodu utyskiwania. Nie mając pod ręką ścisłych cyfr z innych terenów, trudno jest osądzić, czy stawki te są istotnie bardzo niskie. Robotnicy powołują się na Hajnówkę, gdzie dostają 3,20, na Telechany (3,20), na prywatne tartaki w Wileńszczyźnie (4 zł.) i td.—Zażądali tedy podwyżki 40 proc. Nie otrzymali jej. Wybuchł strajk.

Przyłączyli się też robotnicy z cegielni (żydowskich), tłukarze z robót sejmikowych na szosie.Robotnicy robót publicznych, zatrudnieni przez magistrat. Słonim stanął.

Żydowski Słonim. Sklep na sklepie wszystko żydzi. Prócz tego zbliża się 1 maj. Niebezpieczeństwo wyłoniło się jakby z „prawa" i „lewa", sytuacja zdawałoby się krytyczna. Miasteczko małe, ale awantura może być wielka.

**WZÓR IMPONUJĄCEJ KONSOLIDACJI**

Tymczasem, jeszcze w lutym r. b. powstaje w Słonimie związek chrześcijański. O ile mi wiadomo, inicjatorem, duszą organizacji była energja tamtejszego dziekana ks. Kafarskiego. On to doprowadził w mieście do konsolidacji, jakaby mogła służyć za wzór innym, podobnym hasłom. W mieście, położonem na terenie białorusko - prawosławnym, o rynku zażydzonym, o trochę mahometańskich przedmieściach, w miasteczku, gdzie kościół sąsiaduje z cerkwią, a synagoga z meczetem, doprowadził swój chrześcijański związek zawodowy do pierwszorzędnej potencji lokalnej. Chrześcijański dosłownie. Więcej w nim jest prawosławnych niż katolików. Żadnej kłótni z tego powodu, żadnych intryg narodowościowych, wyznaniowych, broń Boże! To imponuje.

Dotychczas było naturalnie Z. Z. Z. Półtora tysiąca złotych (czy nie podatkowych?) w kasie, czterech panów w zarządzie, pięciu członków. Pozostali jak byli. Tylko tych pięciu im odpadło...

Ani komuniści, ani P. P. S. pchając się gwałtownie do Słonima, nic zrobić nie zdołali. A chrześcijański związek zjednoczył odrazu wszystkich. To się rzuca w oczy, to narzuca refleksje.

**„EJ! FASZYSTA!"**

To jednocześnie jednak rzuca reflektor na charakter zatargu, którego formą zewnętrzną jest walka o stawki, ale istotą tkwiący może głębiej.

Bo skąd się wzięła wersja, podawana z ust do ust, o dziwnej zaciętości pracodawców? Rozmawiałem z wielu robotnikami, którzy mi twierdzili:

— Oni (żydzi - kupcy) nie pójdą na ustępstwa.

— Dlaczego? Wygórowane żądania?

— **Nie to. Mówią: „wystąp ze związku, dostaniesz i 4 złote".**

Powtarza mi to drugi i trzeci. Jeżeli kłamie, to kłamie bardzo wielu: „Żydzi się z nas wyśmiewają. Kościół — powiadają — wam pracy nieda. Pójdziecie na zupkę do klasztoru, taak? Ha, ha, ha!"

— Oni ido być za hitlerowców! Ej! faszysta, przyjdziesz pracować?

Teraz rozumiem, dlaczego wytwarza się sytuacja, jedyna w swoim rodzaju, że około 1.000 głodnych, zaciętych, strajkujących robotników uchwala solidarnie nie brać udziału w święcie 1-go maja!...

A strajk trwa od 22-go kwietnia.

Zdawałoby się w takim razie: ręką tylko machnąć po żydowskiej szybie! Zdawałoby się (według szablonowej recepty) wyprowadzić tłum, zrobić burdę, zdemolować Słonim, pierze wrzucić do Szczary, żydów pobić. Bo bić przecież kogoś trzeba! Jak nie „burżujów" 1-go maja, to żydom szyby. — Otóż nic podobnego. Zamiast podżegaczy, pracuje straż porządkowa. Robotnicy w białych (nie czerwonych)) opaskach.

(— Uj! a białogwardiejcy).

Żadnych ekscesów. Żadnych burd. Narazie...

**PO 10 GROSZY NA DWOJE DZIECI**

Ale sytuacja się przewleka. Żydzi proponują takie warunki: 1) mowy nima o umowie zbiorowej ze związkiem chrześcijańskim; 2) kobiecie z rodziną na utrzymaniu podwyższą 30 groszy (do 1,50 dziennie); 3) kawalerom nic; 4) mężczyźni z dwojgiem dzieci 10 groszy; 5) mężczyźni z 4 dzieci 20 groszy. — „Teraz jest słaba konjunktura na drzewa!"

Robotnicy się nie zgadzają. Kpiny te grosze! — Niech pan zobaczy jaka nędza.

Oglądałem mieszkania nad kanałem. Dym gryzący i kilkoro dzieci na klepisku. Kot śpi na stole. Koza przywiązana w sieniach. Nie wietrzony zaduch i dwie kobiety przedwcześnie postarzałe. — Gdzie gospodarz? — Ryby łapie w Szczarze. — Tem mnie oczywiście nie zaimponowali panowie robotnicy. Widziałem osadnika w Brasławskiem na 40 hektarach, który w jednej izbie zimował z żoną, trojgiem dzieci, psem, owcą i krową, którą karmił strzechą własnej chaty. Widziałem jak żyją rybacy na Polesiu, szumowiny na Bałutach w Łodzi, byłem w Mitryczach koło Telechan...

Ale nędza jak nędza i tu, występuje już plamami, a plam tych może być coraz więcej.

**CZY DOJDZIE DO WYBUCHU?**

Bo sytuacja się przewleka.

Zjeżdżają inspektorzy pracy. Odbywają się konferencje w Starostwie. Starosta też wydaje się przejęty być sytuacją, a przyznam, że równie wdzięczny musi być ks. Kafarskiemu, że jest jeszcze taka, jaka jest, bo o rozpętanie łatwo, a autorytet dziekana bardziej wydaje się skuteczny, niźli posiadane w rozporządzeniu środki bezpieczeństwa.

Narazie, jak powiedziałem, strajkujący będą defilować w obchodzie 3-go maja. Zasilą urzędową manifestację. Ale co będzie dalej? Bo to trochę skarg jest i na Zarząd Drogowy i na Sejmik.

A żydzi, ci nie powinni prowadzić zbyt jednostronnej kalkulacji handlowej, tylko na cyfrach opartej. Dobra kalkulacja jest taka, która możliwie wszechstronnie wnika w sytuację rynku i... jego nastrojów tyż.

Choć miejmy nadzieję, że do wybuchu w Słonimie nie dojdzie.

J. M.

Друкаваны орган польскіх кансерватараў газета "Słowo", якая выдавалася на польскай мове ў Вільні, 2 траўня 1938 года апублікавала вялікі артыкул "Ці ў Слоніме будзе выбух?". Аўтар артыкула Юзаф Мацкевіч у сваім матэрыяле распавёў пра забастоўку рабочых у Слоніме, у якой прымалі ўдзел каля 1000 чалавек з розных прадпрыемстваў (і католікаў, і праваслаўных). Рабочыя выступілі супраць багатых фабрыкантаў-яўрэяў і яўрэяў, якія мелі свае фірмы. Умовы працы на іх прадпрыемствах былі вельмі дрэнныя і заробак людзей не радаваў. Забастоўку арганізаваў слонімскі ксёндз Францішак Кафарскі. Пра ўсё гэта і напісаў Мацкевіч. Сам ён быў вядомым на той час пісьменнікам, журналістам, добрым рэпарцёрам у міжваеннай Вільні і адным з найлепшых у тагачаснай Польшчы.

Вельмі цікава і тое, як у той час журналісты пісалі, падавалі "гарачую" тэму праз СМІ. На прыкладзе артыкула Юзафа Мацкевіча даволі добра ўсё гэта бачна.

Пераклад артыкула на беларускую мову для "Слонімскага краю" ажыццявіў Віталь Луба з Польшчы.*

●*Сяргей Чыгрын*

**Артыкул пераказваўся і часткова цытаваўся ў наступнай публікацыі: Іванова Н. Незвычайная забастоўка ў Слоніме // Газета Слонімская, 2015, № 13, 25 сакавіка. С. 6.*

**Ці ў Слоніме будзе выбух?**

У Слоніме ўспыхнула забастоўка каля 1000 рабочых. Хаця, гледзячы на памеры забастоўкі, ахапіла яна амаль палову ўсіх рабочых горада, а таксама на яе прычыны, не толькі на фоне чыста эканамічных ставак, але і спецыфічных умоў, дзе ўсе працадаўцы — яўрэі і забастоўшчыкі-хрысціяне — не быў бы гэты выпадак сенсацыйным здарэннем. Калі б... калі б мы не засвоілі сабе прынцыповых стандартных фармуліровак, у якіх шаблонна адлюстроўваем грамадска-палітычныя з'явы нашага часу. Менавіта стачка ў Слоніме ў гэтых адносінах з'яўляецца зусім чымсьці іншым.

**Гэта незвычайная забастоўка**

Мы звыкліся міжвольна асацыяваць некаторыя словы: пропаведзь — павінна быць "узнёслай", усмешка бандыта — "цынічнай". Такім чынам, рабочы рух асацыіруецца ў нас з левымі сіламі; антысемітызм — з правымі; забастоўка — з хваляваннямі; першамай — з шэсцем рабочых; капіталізм — з рэакцыяй; праваслаўныя і католікі — з узаемным супрацьстаяннем і г. д. у свабодным супастаўленні.

Менавіта ўмовы ў свеце пачынаюць складацца ў такі спосаб, які штораз мацней перакульвае дасюлешнія шаблоны. Новыя сітуацыі, якія пранікаюць у краіну звонку, перарабляюць яе таксама ўнутры. Цяжка, вядома, патрабаваць, каб басейн Шчары меў у гэтых адносінах лідыраваць у Польшчы, але менавіта таму, што сёння ляжыць ён на абочыне, на правінцыі, на "крэсах", у захалусці, у багне, у бабровых рэзервацыях, служыць можа тым характэрным прыкладам.

**Насуперак шаблонам**

Менавіта ўвесь капітал, нават мабыць мільённы (Язерскі), належыць яўрэям, якія па прычыне сваёй расы прымыкаюць бадай да палітычнай групы Фолксфронту [Народнага фронту], да ворагаў ген[ерала] Франка, да прыхільнікаў левай плыні, аж да бальшавізму ўключна. Гэта ж не навіна, але патрэбнае для далейшага супастаўлення.

Слонімскія рабочыя, гэтыя ж менавіта забастоўшчыкі, амаль палова працоўнай масы — гэта хутчэй клерыкалы, чымсьці сацыялісты. Іхнімі хлеба- і працадаўцамі (капіталістамі) празываныя і лаяныя яны словамі: нацдэмы, фашысты, гітлераўцы.

Антысеміцкі рух ідзе знізу і ад нізавых праслоек, ды ўбіраецца рабочым рухам.

Праваслаўныя і католікі ствараюць адну, незвычайна салідарную арганізацыю, і хаця праваслаўныя складаюць большасць, аўтарытэтам для арганізацыі з'яўляецца ксёндз лацінскага абраду.

У забастоўкі аблічча жалезнай субардынацыі, спакою і пашаны, а яе абвяшчэнне не выклікала нават тысячнай часткі таго замяшання, якое сумеюць выклікаць некаторыя старастаў "распараджэнні" (напрыклад, Віленска-Троцкага павета).

Рабочыя байкатуюць святкаванні 1-га траўня.

Забастоўшчыкі прымаюць удзел у дзяржаўных святкаваннях 3-га траўня, ідуць строем па чатыры і сур'ёзна.

Усё гэтае ў Слоніме можа нам паслужыць хаця б малым дадатковым матэрыялам пра "новы час" і таму за тамашнімі падзеямі можна са-

чыць з усёй зацікаўленасцю. Разгарнуліся яны на наступным форуме.

**Па абодва бакі барыкады**

Калі яўрэям мае быць дрэнна ў Польшчы, то хіба Слонім не ляжыць у яе межах! Маёмасць належыць там толькі яўрэям. Гандаль і прамысловасць. Грошы і ўплывы, і магутнасць. А на долю хрысціян выпаў цяжкі лёс наёмнай працы, рабочай, бруднай, мокрай.

Усе 6 тартакоў (разам з Альбярцінам) у яўрэйскіх руках, вялікіх капіталістаў. Канцэпольскі. Дачка яго партнёра Фаіна арыштаваная за камунізм. Язерскі, "мільянер" Дубкоўскі, які найбольш строга абыходзіцца з рабочымі. Рабіновіч, два сыны арыштаваны за камунізм.

На другім баку барыкады — 600 лесапільных рабочых, католікаў і праваслаўных, для якіх плацежная ведамасць складзена на яўрэйскай мове, якім адмаўляюць у гумавых ботах для работы ў вадзе, якіх ставяць па трох замест чацвярых да цяжкіх калод, да якіх ставяцца груба.

Так, менавіта, прадстаўляецца нарыс слонімскага канфлікту. Але давайце быць дакладнымі: час, які б не быў новы, ён даволі матэрыялізаваны, каб галоўнай прычынай засталіся матэрыяльныя ўмовы платы. Рабочыя менавіта сцвярджаюць, што іх капіталісты эксплуатуюць. Але ў Слоніме хутчэй за ўсё скажуць: яўрэі эксплуатуюць хрысціян.

**Стаўкі**

Мужчына зарабляе там у сярэднім 2 зл. 30 гр. дзённай стаўкі, жанчына — 1 зл. 20 гр. Вялікія па гэтай прычыне нараканні. Не маючы пад рукой дакладных лічбаў з іншых тэрыторый, цяжка гаварыць, ці гэтыя стаўкі сапраўды нізкія. Рабочыя спасылаюцца на Гайнаўку, дзе атрымліваюць 3,20, на Цеўляханы (3,20), на прыватныя тартакі на Віленшчыне (4 зл.) і г. д. Патрабавалі тады прыбаўкі памерам 40%. Не атрымалі. Успыхнула забастоўка.

Далучыліся таксама рабочыя цагельняў (яўрэйскіх), каменябойцы з сеймікавых работ на шашы. Рабочыя публічных работ, працаўладкаваныя магістратам. Слонім стаў.

Яўрэйскі Слонім. Магазін на магазіне, усё яўрэі. Апрача таго набліжаецца 1 траўня. Небяспека з'явілася быццам "злева" і "справа", сітуацыя здавалася быць крытычнай. Мястэчка малое, але скандал можа быць вялікім.

**Узор імпазантнай кансалідацыі**

Тым часам яшчэ ў лютым г. г. узнікае ў Слоніме хрысціянскі прафесійны саюз. Як мне стала вядомым, ініцыятарам, душой арганізацыі была энергія мясцовага дэкана, кс[яндза] Кафарскага. Менавіта ён даведў у горадзе да кансалідацыі, якая магла служыць узорам для іншых падобных лозунгаў. У горадзе, які ляжыць на беларуска-праваслаўнай тэрыторыі, з яўрэйскім рынкам і магаметанскімі прадмесцямі, дзе касцёл стаіць у суседстве з царквою, а сінагога з мячэццю, давёў ён свой хрысціянскі прафсаюз да першакласнай лакальнай патэнцыі. Літаральна хрысціянскі. Больш у ім праваслаўных, чым католікаў. Няма ніякіх сварак па гэтай прычыне, ніякіх інтрыг на нацыянальнай, канфесійнай глебе, барані Бог! Гэта імпануе.

Дагэтуль, зразумела, быў Саюз прафсаюзаў. Паўтары тысячы злотых (ці не ад падаткаў?) у касе, чатырох джэнтльменаў ва ўправе, пяць членаў. Засталіся як былі, толькі тых пяць адышлі...

Ані камуністы, ані ППС, якія гвалтоўна сталі пхацца ў Слонім, нічога зрабіць не змаглі. А хрысціянскі саюз аб'яднаў адразу ўсіх. Гэта ўсім кідаецца ў вочы, застаўляе задумацца.

**"Эй, фашыст!"**

Гэта адначасна кідае святло на характар канфлікту, якога вонкавай формай з'яўляецца змаганне за стаўкі, але сутнасць можа ляжаць глыбей.

Бо адкуль узялася версія, перадаваная з вуснаў у вусны, аб дзіўнай зацятасці працадаўцаў? Я гутарыў з многімі рабочымі, якія мне сцвярджалі:

—Яны (яўрэі – купцы) не пойдуць на ўступкі.

—Чаму? Празмерныя патрабаванні?

—Не гэтае. Яны кажуць: "Выйдзі з прафсаюза, атрымаеш і 4 злоты".

Паўтарае мне гэта і другі, і трэці. Калі хлусяць, дык хлусяць многія: "Яўрэі з нас смяюцца. Касцёл, — кажуць, — працы вам не дасць. Пойдзеце на супок у кляштар, так? Ха-ха-ха!".

—Яны імкнуцца стаць гітлераўцамі. Эй, фашыст, прыйдзеш працаваць?

Цяпер разумею, чаму стварылася такая сітуацыя, адзіная ў сваім родзе, што каля 1000 галодных, зацятых рабочых-забастоўшчыкаў вырашае салідарна не прымаць удзелу ў святкаванні Першамая. А страйк працягваецца з 22 красавіка.

Здавалася б у такім выпадку: махнуць рукой па яўрэйскай шыбіне! Здавалася б (паводле шаблоннага рэцэпта) вывесці натоўп людзей, учыніць скандал, знішчыць Слонім, пер'е ўкінуць у Шчару, збіць яўрэяў. Бо ж збіць кагосьці трэба! Калі не "буржуяў" 1 траўня, то хаця б пабіць шыбы яўрэям. Дык вось нічога падобнага. Замест падбухторшчыкаў працуюць ахоўнікі парадку. Рабочыя з белымі (не чырвонымі) павязкамі. (Уй! белагвардзейцы.)

Ніякіх эксцэсаў, ніякіх знішчэнняў. Пакуль...




**Па 10 грошаў на дваіх дзяцей**

Але сітуацыя зацягваецца. Яўрэі прапануюць такія вось умовы: 1) няма гаворкі аб калектыўнай дамове з хрысціянскім прафсаюзам; 2) жанчыне, якая ўтрымлівае сям'ю, прыбавяць 30 гр. (да 1,50 зл. дзённай стаўкі); 3) халасцякам, нічога; 4) мужчынам з дваімі дзяцьмі — 10 гр.; 5) мужчынам з чатырма дзяцьмі — 20 гр. — "Цяпер слабая кан'юнктура на драўніну!".

Рабочыя не пагаджаюцца.

—Кпіны тыя грошы! Самі гляньце, якая нэндза.

Паглядзеў я кватэры над каналам. Едкі дым і некалькі дзяцей на таку. Кот спіць на стале. Каза прывязаная ў сенцах. Не праветрываная духата і дзве жанчыны, заўчасна састарэлыя.

—Дзе гаспадар?

—Рыбу ловіць у Шчары.

Гэтым, натуральна, не зрабілі на мяне ўражання спадары рабочыя. Бачыў я асадніка на Браслаўшчыне на 40 гектарах, які ў адным памяшканні зімаваў з жонкай, траімі дзяцьмі, сабакам, авечкай і каровай, якую карміў страхой сваёй хаты. Бачыў, як жывуць рыбакі на Палессі, бамжы ў мікрараёне Балуты ў Лодзі, быў у Мітрычах каля Целяхан...

Але нэндза ёсць нэндза і тут выходзіць яна ўжо плямамі, а гэтых плям можа быць штораз больш.

**Ці дойдзе да выбуху?**

Бо сітуацыя замаруджваецца. З'язджаюцца інструктары працы. Адбываюцца канферэнцыі ў старостве. Староста таксама, здаецца, узяў сітуацыю да сэрца. Пэўна, мусіць быць ён удзячны кс. Кафарскаму, што сітуацыя так склалася, як склалася, бо ўскладніць яе лёгка, а аўтарытэт дэкана здаецца быць больш дзейсны, чым сродкі бяспечнасці, якія староста мае ў сваім распараджэнні.

Пакуль, як я сказаў, забастоўшчыкі будуць маршыраваць у шэсці 3-га траўня. Падмацуюць афіцыйную дэманстрацыю. Але што будзе далей? Бо ёсць трохі скаргаў і на Дарожную ўправу, і на Сеймік.

А яўрэі не павінны весці надта аднабокай гандлёвай калькуляцыі, абапёртай толькі на лічбы. Добрая калькуляцыя такая, якая магчыма ўсебакова ўнікае ў сітуацыю рынку і... таксама ў яго настроі.

Хаця, трэба спадзявацца, што да выбуху ў Слоніме справа не дойдзе.

Пераклад з польскай мовы **Віталя Лубы**

*P.S. Забастоўка ў Слоніме працягвалася два тыдні. Яна была спынена пасля таго, як рабочым паднялі заробкі (на 15% для жанчын і на 10-15% для мужчын).*

# Юзаф Гадлеўскі



Сярод актыўных грамадска-палітычных дзеячоў у Слонімскім павеце ў міжваенны час быў Юзаф Мар’ян Гадлеўскі (Józef Marian Godlewski, 1890 — 1968). Ураджэнец Ровеншчыны трапіў на Слонімшчыну ў сярэдзіне 1920-х пасля таго, як узяў шлюб з графіняй Фабіянай Гутэн-Чапскай. Яны жылі ў маёнтку Сынковічы (цяпер — Зэльвенскі раён).

Гадлеўскі праводзіў вельмі актыўную грамадскую дзейнасць. Ён быў сябрам галоўнага савета крэсовага саюзу земляўладальнікаў, кіраваў яго аддзяленнем у Слоніме, як і павятовай філіяй сельскагаспадарчага таварыства. Таксама Юзаф Гадлеўскі выконваў абавязкі старшыні назіральнага савета муніцыпальных ашчадных банкаў і шэрагу іншых структур. Ён быў сябрам павятовага сейміка ў Слоніме.

Паводле палітычных перакананняў Гадлеўскі быў пілсудчыкам, нейкі час кіраваў гэтай палітычнай сілай у Навагрудскім ваяводстве. У 1938-1939 гадах ён быў польскім сенатарам. На пачатку Другой сусветнай вайны праз краіны Балтыі і Скандынавіі выехаў з сям’ёй на Захад, стаў актыўным польскім эміграцыйным дзеячом. Памёр у Лондане 3 чэрвеня 1968-га.

●*Генадзь Гурскі*

# Дзве рэдкія мапы Слонімшчыны





У маім прыватным архіве захоўваюцца копіі дзвюх рэдкіх мапаў, якія ў 2009 годзе мне падараваў краязнавец з Ваўкавыска Мікола Быхаўцаў. Ён ашукаў іх у адным з расійскіх архіваў. Першая адносіцца да 1906 года. Яна была выпушчана тады, калі наша Слонімшчына ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Маштаб яе: 1 см на 500 м. Другая мапа была выпушчана ў 1895 годзе для Аўстра-венгерскай арміі. Маштаб яе: 1 см на 2 км.

На гэтых мапах адлюстраваны многія раней невядомыя і зніклыя мястэчкі, фальваркі і хутары Слонімшчыны. Там добра бачна, як мяняліся некаторыя назвы нашых вёсак і колькі вёсак за 100 гадоў знікла з тэрыторыі слонімскай зямлі. Напрыклад, каля вёскі Хадзявічы была яшчэ адна вёска — Рыбалавы. Каля вёскі Ганькі быў фальварак Падлужжа, каля Парэчча быў фальварак Марыяполь і г. д. Наогул, па гэтых мапах можна палічыць, колькі было фальваркаў, якія яны мелі назвы, дзе знаходзіліся, але ўсё гэта, на жаль, ужо ў мінулым часе.

●*Сяргей Чыгрын*

**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Чыгрын*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**